Opłatę pocztową
uiszczono ry ałtem.

**Цана асобнага нумару 20 грош.**

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

№. 4 (17). Вільня, Субота, 16-га студзеня 1926 г. Год II.



## Сымвал сьмерці.

У буржуазным сьвеце—вялізарны скандал!

Бо-ж як-жа: уся сіла, уся магутнасьць гэтага сьвету грунтуецца на большай ці меншай цэннасьці паперкаў, званых грашмі, — і вось выдатныя прадстаўнікі буйнейшае буржуазіі ў цэлым радзе буржуазных гаспадарстваў аказаліся ўчасьнікамі банды, фабрыкаваўшай *фальшывыя грошы*: францускія тысячафранкоўкі, стофранковыя швайцарскія банкноты, англійскія пяціфунтоўкі, югаслаўскія тысячадынароўкі, чэскія кроны, партугальскія грошы і гэтак далей.

Будапэшт, Парыж, Гаага, Дюссэльдорф, Білефэльд—вось цэнтры, дзе адбывалася фабрыкацыя фальшывых банкнотаў. А на чале найвялікшае і найлепш з'арганізаванае банды фальшываманэтчыкаў стаяў *галава вэнгерскіх манархістаў князь Віндішгрэц*.

Яшчэ горш: у фабрыкацыі фальшывых грошы замешаны выдатныя *ўрадавыя* фігуры...

Тое, што фабрыкаваньне фальшывых грошы абняло блізу ўсю Эўропу, што сьледзтва ў гэтай справе выкрывае ўчасьце ў гэнай рабоце „высокіх асоб“,—усё гэта паказуе, што справа йдзе *не аб звычайных злачынцаў*: можна сьмела сказаць, што ўсе апісаныя факты маюць самую цесную сувязь з пашыраным пры вялізарных грашовых затратах *фашыстаўскім рухам* у Эўропе.

Мімаволі прыпамінаецца спроба манархічнага перавароту *Каппа ў Нямеччыне*, зробленая некалькі гадоў назад: і там арганізатары няўдалага перавароту маніліся фінансаваць яго *фальшывымі расейскімі 250-рублёвымі „думскімі“ банкнотамі*, якія быццам былі ўжо заказаны ў Вене, калі верыць рэвэляцыям францускага агента палкоўніка Ладнова. Цяпер ідэя Каппа зрэалізавалася, толькі ў шмат шырэйшым маштабе....

Манархізм, фашызм—гэта-ж усё праявы імкненьня буржуазіі да *поўнага і нічым неабмяжованага панаваньня над працоўнымі масамі.* І вось скандальнасьць фальшаваньня грошы прадстаўнікамі гэтых кірункаў — у тым, што яны сваей „дзеяльнасьцяй“ падсякаюць той сук, на якім сядзяць: *падкапываюць веру ў папяровыя грошы* і разам з гэтым *крэдыт усіх сучасных буржуазных гаспадарстваў.*

Колькі гадоў назад у буржуазнай прэсе, якая ніяк не магла паверыць, што радавы ўрад мае запраўды вялікі запас чужаземных валют, пушчана была чутка, быццам у Маскве ў дзяржаўнай друкарні друкуюцца фальшывыя грошы. Чутка гэтая *аказалася фальшывай*. Але тое, што буржуазія прыпісывала сваім ворагам, зрабілі як раз *самі-ж буржуазныя дзеячы*!

Ці-ж гэта — не найярчэйшы доказ банкруцтва буржуазіі?! І ці-ж у гэтыя агульна-эўрапэйскія рамкі не ўкладываецца знамяніта банкруцтва польскае буржуазіі, якая зьядае на нашых вачах сваю ўласную дзяржаву?....

Запраўды: стары буржуазны сьвет валіцца шмат шыбчэй, чым хто мог спадзявацца. Быццам успрысківаньнем сільна дзеючага яду, ён хоча ажыўляць сябе—фальшывым багацьцем, навадняючы буржуазную Эўропу падробленымі банкнотамі.

Ці-ж гэта—не найлепшы сымвал і для тых *фальшывых маральных цэннасьцяў*, якімі стараецца яшчэ апраўдаць сваё істнаваньне стары, паміраючы ўжо сьвет?!...

Ці гэта—ня *сымвал сьмерці яго наагул*?!

## Прафэсар Кемэрэр аб гаспадарчым стане Польшчы.

Як заўсёды бывае ў выпадку незьлячымай хваробы, хворыя зьмяняюць дактароў мясцовых, выпісываюць заграпічных, прабуюць усіх лекаў, якія толькі выдумалі людзі. Астаюцца нязьменнымі толькі — усё паглыбляючаяся незьлячымая хвароба, аснаўныя варункі, яе выклікаўшыя, і — няздольны да жыцьця пацыент...

Гэная старая гісторыя паўтараецца і з Польшчай, хворай на „крэсавую пухліну“...

Усё—як было два гады назад. Толькі тады лячыў краёвы знахар Грабскі, а з-заграніцы выпісывалі прафэсара Юнга. Цяпер лечыць канавал Зьдзеховскі, а да яго на кансіліум выпісалі праф. Кемэрэра... Але—й тады ня вылячылі, толькі пагоршылі хваробу, дый ня вылячаць і цяпер. Ня вылячаць, бо ніяк ня могуць адважыцца на рашучую хірургічную апэрацыю, без якой ня можа быць адратавана жыцьцё хворай Польшчы. І вось пухліна — перарост дзяржаўнай тэрыторыі панад сілы „травеньня“—раскладаецца, заражаючы ўвесь арганізм краю... Ад пухліны тэрытарыяльнай ідзе пухліна мілітарная, паліцэйская, чыноўніцкая. А гэтыя ўсе выклікаюць пухліну грашовую, якая і ёсьць—інфляцыя...

І вось дактары ўжо хваціліся трохі—пад націскам катастрофы — за розум і пачалі абмяжоўваць пухліну ў дзяржаўна-гаспадарчым арганізьме Польшчы... Але пачалі — якраз не з таго канца, бо-ж не ад пачатнай, першай прычыны, але—з канца, ад скуткаў гэтай асноўнай прычыны, не чапаючы самае прычыны. Дык ясна-ж, што з гэткага абмяжаваньня і лячэньня ракавай пухліны на Польскай дзяржаве нічога ня выйдзе...

---

Прыяжджаў добры знаўца гэткіх хваробаў, п. Х. Юнг, паглядзеў, паслухаў хворую і сказаў амаль ня тое-ж, што кажам заўсёды сваім простым мужыцкім розумам мы, беларускія публіцысты і паслы. Але—ведама-ж — ганорныя апякуны хворай не паслухалі добрай рады англійскага спэцыяліста. Дык вось праз два гады прыйшлося затое выпісываць ужо з Амэрыкі другога, яшчэ даражэйшага...

Паслухаем, што-ж сказаў гэты новы знаўца праф. Кемэрэр.

Перад усім, трэба прыпомніць сабе, што і п. Юнг і п. Кемэрэр запрошаны былі польскім урадам на кансіліум, запрошаны тымі самымі апякунамі хворай Польшчы, якія хочуць лячыць толькі скуткі хваробы, але ня хочуць хірургічнай апэрацыяй ухіліць галоўную яе прычыну... Трэба памятаць і тое, што абодва знаўцы—і англійскі, і амэрыканскі—адначасна зьяўляліся і гасьцьмі гэтага ўраду, дый за грошы яго былі нанятыя. Дык вось два гады назад п. Юнг зусім свабодна загаварыў аб хваробе Польшчы толькі — прыехаўшы ў Лёндан... Можна думаць, што тое-ж зробіць, прыехаўшы ў Нью-Іорк, і п. Кемэрэр.

А вось, што перад выездам з гасьціннае Варшавы сказаў сам праф. Кемэрэр.

Паводле слоў гэтага прыемнага доктара-оптыміста выходзіць тое, што ніякае хваробы запраўды ў Польшчы няма, а былі, ці ёсьць, у хворай пані—толькі „нэрвы“...—Зусім, як у „Пані Піпэрмэнт“ польскага юмарыста Клемэнса Юношы!—Валюта паляцела ўніз—толькі „ад нэрваў“, бо пані Піпэрмэнт сама ня верыла ў сваю валюту, у свае здароўе. Ад „нэрваў“ — усё: неўраджай, пустыя касы Польскага Банку, дарагоўля, гаспадарчы крызіс, эканамічная вайна з Нямеччынай, безрабоцьце — ўсё гэта праф. Кемэрэр, як запраўдны „дамскі лекар“, тлумачыць „нэрвамі“ пані Піпэрмэнт..

Што-ж выдумаў ідарадца польска-амэрыканскай буржуазіі, каб вылячыць „нэрвы“ польскай валюты? А вось што.

Ен радзіць устанавіць, як правіла, каб польская валюта забясьпечана была ў сваёй вартасьці нармальна толькі на 40 проц. яе намінальнай цаны—фондамі і запасамі Польскага Банку. Але гэта—толькі **нармальна**. „У выпадку патрэбы“—гэтых запасаў і фондаў няма чаго шкадаваць, але трэба пускаць у ход, спускаючы пакрыцьце валюты навет да 30 проц. Але адначасна, каб утрымліваць у раўнавазе бюджэт і мець магчымасьць заўсёды вярнуцца да вышэйшага пакрыцьця (да 40 проц.), трэба адначасна **і прэпорцыянальна да вычарпаньня запасу і фунду Банку—падвышаць усе падаткі ў краі і вэксэльны процант на пазыкі з Польскага Банку...**

Напрыклад, калі з запасаў Польскага Банку паны абшарнікі ці паны прамыслоўцы атрымаюць мільёнвыя пазыкі на патрэбы „адбудовы“ іх гаспадарак і фабрык, дык гэтыя дзіры ў запасах Банку павінны пакрыць павялічанымі падаткамі—**працоўныя вёскі і работнікі местаў Польшчы...**

Тады ўжо,—завярае амэрыканскі цудатворца,—польская валюта будзе мацней, як навет... СССР!

Грунтуючыся на ўрадавых інфармацыях, пан доктар Кемэрэр моцна верыць у будучыну і здароўе Польшчы... Яе „дабравольны“ высілак, якім польская буржуазія аддала ў ахвяру галоднага крызісу драбнейшых урадоўцаў, работнікаў і працоўнае сялянства, ратуючы толькі сябе,—так расчуліў шляхотнага доктара-амэрыканца, што ён, жагнаючыся з сям'ёй хворай і хаваючы няпрыкметна атрыманыя за візыту грошы, ажна... „забыўся“ сказаць тое **найважнейшае**, дзеля чаго яго клікалі!

— „Пане доктоже, пане доктожэ, спынілі яго ўжо на парозе галоўныя апякуны хворай: „А якжа-ж будзе з тэй пазыкай, якую пан доктар нам абяцаў на лекі ў амэрыканскай аптэцы?“...

— „З якой пазыкай?“,—зьдзівіўся п. Кемэрэр, адразу неяк спахмурнеўшы.

— „З пазыкай, ці крэдытам у аптэцы на лекі ад „нерваў“,—тлумачылі ўпорна, трымаючы пана доктара за футра, паны апякуны, заплаціўшыя доктару гонарар, за які пэўна-ж можна было-б адратаваць ад сьмерці не адну сотню галодных безработных...

Зразумеўшы нарэшце, аб што йдзе, заморскі доктар спахмурнеў яшчэ больш, але ветліва адказаў:

— „Ну, што датычыць крэдыту ў амэрыканскай аптэцы, дык магу паноў і ясна-вяльможную Паню запэўніць: атрымаеце крэдыты напэўна, але—толькі тады, **калі хворая зусім паздаравее сама**“...

Такі адказ на гэтае найважнейшае для Польшчы пытаньне і даў п. прафэсар Кемэрэр.

## Маршалак Пілсудскі пратэстуе.

У сувязі з падняцьцем у Радзе Міністраў справы павароту ў армію марш. Пілсудскага і апублікаваньнем урадавага камунікату аб гэтым, сам заінтэрэсаваны п. Пілсудскі апублікаваў у газэтах адкрытае пісьмо, заяўляючы, што аб яго павароце ўрад рашае без яго ведама і згоды, і пратэстуючы проці „палітычнага торгу маршалкам Язэпам Пілсудскім“.

Пісьмо сваё п. Пілсудскі канчае гэткімі славамі:

„... Калі хто жаліцца на благую канстытуцыю ў нас, дык можа сьмела дадаваць, што йшчэ благую канстытуцыю можна вытрымаць, але благіх і шмат горшых за благую канстытуцыю палітычных звычаяў і абычаяў вытрымаць немагчыма“.

У канцы два словы аб „нэрвах“ наагул...

Усім ведамы крылатыя словы фэльдмаршалка Гіндэнбурга, што „пераможа ў кожнай вайне той, у каго мацнейшыя нэрвы“...

Што вайна між дзяржавамі, пасьля Вэрсальскага „міру“, ня спынілася, а толькі прыняла новыя фінансава-гаспадарчыя формы вострай канкурэнцыі—таксама не на жыцьцё, але на сьмерць,—гэта-ж таксама ведама ўсім...

Ясна, што і для гэтай вайны-канкурэнцыі патрэбны таксама моцныя нэрвы, дый пераможа ў ёй той, у каго яны мацней...

Дык-ці-ж мейсца ў гэтай жорсткай сусьветнай барацьбе для такой далікатнай яснавяльможнай Пані, якая, толькі сунуўшыся ў першы агонь, ужо на самым пачатку вайны пачала лячыцца ад „нэрваў“?...

# Аб чым пішуць.

### Палемічны прыём, ці запраўдная пагроза?

У сувязі з паднятай пэпэсаўскім міністрам эндэцкага ўраду, Морачэвскім, справай павароту ў армію маршалка Пілсудскага, сярод эндэкаў падняўся запраўдны перапалох. Баючыся, што гэтую справу ўрад—„дзеля сьвятое згоды“ — можа разьвязаць у памысным для пана Пілсудскага духу, эндэцкая газэта „Gaz. Warsz. Poranna“ зьмясьціла надовячы стацьцю п. Новачыньскага, у якой аўтар стараецца **запужаць** польскае грамадзянства, пагражаючы чуць-што не **вайной з СССР**, калі-б Пілсудскі стануў на чале польскае арміі.

Ня ведаем, ці доказы п. Новачыньскага — праўдзівыя, ці гэта толькі „палемічны прыём“. Але ўсё-ж дзеля характэрыстыкі сучаснага палітычнага палажэньня падаем словы эндэцкага пісьменьніка:

> У 1925 годзе нашы торговыя зносіны з Расеяй значна былі палепшыліся. Мы падпісалі рад канвэнцыяў: консулярную, паштовую, чыгункавую, цяпер надыходзіла пара даць адносінам з СССР праўныя падставы. Толькі ў апошнім часе—ад лістапада, болей-меней ад дзён крызісу ў лістападзе і **выступленьня ізноў Я. Пілсудскага на арэну**, нешта пачало псавацца. Здаецца, што ў Маскве пераважылі ўплывы Літвінова, няпрыхільнага да ўзмацаваньня торговых зносінаў з намі. Цяпер-жа **спынены вялікія заказы ў Польшчы**, адкінуты праект вялікіх перагавораў, распачатыя перагаворы йзноў адложаны. Гэта нядобра.

Далей п. Новачыньскі падае рад галасоў расейскае прэсы (радавае) аб польска-расейскіх адносінах. Галасы гэтыя заслугуюць на ўвагу.

Вось, што піша аб гэтым маскоўская „Рабочая Газэта“:

> „...падставай дзеля ўсялякіх зносінаў і перагавораў з Польшчай павінен стацца перагляд рыжскага трактату, вызваленьне ўкраінскага і беларускага насяленьня з ярма штучна праведзеных граніц, ды правядзеньне новае граніцы над Бугам“.

Пасьля гэтае цытаты аўтар піша:

> „Гэты-ж самы матыў закрануў з нагоды прыезду Чычэрына ў Варшаву ў „Bierliner Tageblatt“ (з 30 верасьня) варшаўскі карэспандэнт гэтае часопісі, пішучы, што „Расея, аднак-жа, дагэтуль **не зраклася рэвізіі рыжскага трактату**“. А ў папярэднім тыдні тое-ж паўтарыў заўсёды заядлы і закляты наш вораг Лёйд Джордж: „...Расея нездаволена сваей заходняй граніцай, вызначанай у часе, калі яна, занятая ўнутранымі клапотамі, не магла яе, як сьлед, абараніць. Калі-б Расея аказалася склоннай увайсьці ў Лігу Народаў, адносіны яе да другіх дзяржаў ураз-жа зьмяніліся бы, і **справа граніц была-бы ўладжана папрыяцельску**. Пакуль-жа Расея гэтага ня зробіць, мамэнт, калі, узмацаваўшыся эканамічна, яна магла-бы хапіцца за аружжа, каб гвалтам здаволіць свае дамаганьні, зьяўляецца толькі справай часу. У цяперашні мамэнт маскоўскі ўрад ня можа ўваружыць сваіх войск, бо ня мае на гэта грошы. Гаспадарчая адбудова Расеі азначала-бы так-жа ўзмацаваньне яе вайсковае сілы“.

Урэшце п. Новачыньскі падае выступленьне радавае газэты „Война і Революция“, у якім гаворыцца ак імкненьні Англіі выкарыстаць Польшчу дзеля арганізацыі процісавецкага аружнага выступленьня, і ў гэтым выступленьні галоўнае месца вызначаецца пану маршалку Пілсудскаму...

Не бярэмся судзіць, ці асоба п. Пілсудскага мае запраўды гэткую вагу, каб аж папсавала польска-радавыя адносіны, але прыведзеныя панам Новачыньскім галасы прэсы ўсё-ж цікаўны і красамоўны самі па сабе...

# Сойм.

### Узнаўленьне паседжаньняў.

12 студня пачаліся пасьля сьвяточных вакацыяў паседжаньні Сойму.

Першы раз зьявіўся—проста з вастрогу—новы пасол беларускі з Навагрядчыны (—на мейсца Кахановіча)—п. Сабалеўскі, які і прыняў пасольскую прысягу.

Пасьля пачалася дыскусія над новаапрацаваным міністрам Ст. Грабскім „Службовым Статуце для вучыцельства“. Мы спынімся даўжэй на гэтым новым „арцыдзеле“ клерыкальна-паліцэйскай творчасьці мін. Грабскага, калі дакладней пазнаёмімся з праектам. Цяпер сцьвердзім толькі, што гэты праект востра крытыкавала ўся лявіца Сойму, асабліва-ж востра—паслы меншасьцяў, проці якіх скіраваны галоўным чынам усе скарпіёны праекту.

У пятніцу Сойм мае ізноў разыйсьціся аж да 25...—здаецца,—на кітайскія Сьвяты.

# Важнейшыя здарэньні.

## У Польшчы.

### Заморскія банкіры—на польскія манаполіі.

У сераду прыехалі ў Варшаву з Амэрыкі прадстаўнікі вялізарнага тытуновага трэсту, які маніцца ўзяць у арэнду ці пад залог тытуновую манаполію ў Польшчы.

### Папраўка курса злотага і дарагоўля.

Ня гледзячы на часовую папраўку курса злотага, падскачыўшыя вельмі значна цэны за ўсе тавары зусім ня маюць імкненьня спадаць. Ведама, што ўсе мануфактурныя тавары—сукно, паркалі і інш.—гандляры зараз-жа пачалі аблічаць—„на даляр“. Але гэта—толькі тады, калі даляр падыймаўся. А калі пачаў спадаць, дык цэны асталіся тыя-ж—„даляровыя“...

Наагул, як аблічаюць у Варшаве, усе „экспортавыя“ і ўсе „імпортавыя“ тавары (тыя, што вывозяцца з краю, як і тыя, што ўвозяцца ў край) падаражэлі на 39—40 працэнтаў, ці амаль не ўдвая. А цяпер урад абшарнікаў, фабрыкантаў дый аптавікоў (з пэпэсамі ў „сенцах“) зусім не клапоціцца, каб гэтыя тавары натаньнелі, бо-ж гэта гэным паном нявыгадна...

### Дэманстрацыя безработных у Чэнстахове.

9 студня ў Чэнстахове адбылася перад гмахам Магістрату вялікая дэманстрацыя безработных, трэбаваўшых хлеба і працы. Прэзыдэнта места ня было, дык ніхто ня даў адказу сабраўшымся. Тады таўпа пачала хвалявацца і пагражаць. Паліцыя разагнала таўпу, арыштаваўшы „агітатараў“. Але і бяз іх безработныя ізноў сабраліся на мітынг каля фабрыкі „Варта“.

Мітынг быў вельмі людны і бурны. Безработныя пачалі гаварыць „антыпаньствовыя“ прамовы, трэбуючы, апрача ўсяго, звальненьня арыштаваных таварышоў.

Паліцыя ізноў наляцела на дэманстрантаў, разагнала мітынг і арыштавала новых „агітатараў“... Нажаль, галоўныя з іх — голад і холад — уцяклі ад рук паліцыянтаў...

### Каго з вучыцялёў мае мін. Ст. Грабскі выганяць?

Клюб Вызваленьне падаў у Сойм вельмі цікаўную інтэрпэляцыю, праліваючую яшчэ крыху сьвятла на тое, што робіцца дый мае рабіцца ў засьценках так-званага ў Польшчы „міністэрства асьветы“... Інтэрпэляцыя кажа аб тым, што мін. Грабскі аддаў паслу Рымару ўсе пэрсональныя справы ўсяго вучыцельства Польшчы... Проста кажучы, пасол Рымар, ведама-ж эндэк, мае асабіста рашаць ці радзіць пану міністру, каго трэба —дзеля „эканоміі“—выкінуць са службы, каго перавесьці на іншае мейсца, каму абрэзаць пэнсію, а каму дадаць, і г. д...

Можна толькі прадставіць сабе, што пачнецца сярод вучыцельства ў нас на „Крэсах“, дзе і без таго асабовы склад яго, дабіраны панамі Гонсёровскімі і Сьвідэрскімі, можа пахваліцца — „рэкордам“...

### Ген. Жэліговскі—у адстаўку?

Назначаны ваенным міністрам, відаць, толькі часова, каб зьліквідаваць спор „пілсудчыкаў“ з „гэлерчыкамі“, генарал Жэліговскі мае падацца ў адстаўку.

### Раскол ці развал у „Вызваленьні“?

Як ведама, калі галоўная ўправа Вызваленьня выключыла з партыі пасла Домбскага і аддала пад партыйны суд яшчэ 9 паслоў, дык ясна было, што будзе новы адкол ад растрэскаўшагася з усіх бакоў штучна зьлепленага Клюбу.

І вось, запраўды, толькі што пасол Валерон падаў заяву ў управу Вызваленьня ад імя 17 паслоў аб выхадзе з клюбу і партыі Вызваленьня.

У ліку гэтых паслоў — і віленскі пасол Гэльман.

Пасьля гэтай заявы старшыня групы паслоў-вызваленцаў Віленшчыны і Навагрудчыны падаў у тую ж управу Вызваленьня заяву—з дамаганьнем склікаць нараду ў зьвязку з новым расколам. Трэба думаць, што ў выніку гэтай нарады і 5 паслоў-вызваленцаў з нашых „Крэсаў“ таксама выйдуць з тэй партыі, якую „Незалежны Хлоп“ блізка да праўды называе „домам вар‘ятаў“.

17 паслоў стварылі новую групу ў Сойме — пад назовам „Клюб Сялянскай Партыі“. Трэба думаць, што гэты новы клюб злучыцца з „Сялянскім Зьвязком“ пасла Брыля.

Ня вельмі гэта ўсё шчырыя і адважныя прадстаўнікі сялянства, але ў кожным разе—гэта важная і цікавая азнака таго, што сялянства ў Польшчы пачало кратацца дый націскаць на сваіх паслоў у Сойме, каб—адмяжоўваліся ад розных Тугуттаў дый Панятовскіх, а гуртаваліся асобна...

Другім крокам будзе—паразуменьне і аб‘яднаньне ўсіх сялянскіх групаў дзеля супольнай барацьбы.

## Заграніцай.

### Языковае пытаньне ў Латвіі.

Да латвійскага міністра ўнутраных спраў зьвярнулася дэлегацыя Рады места Дынабургу (Дзьвінску), каб высьветліць яму немагчымасьць выкананьня загаду—аб увядзеньні на паседжаньні і да працы мястовага самаўраду дзяржаўнай мовы (латышскай)... Дэлегацыя заявіла, што каля 80 процантаў усіх радных не ўладае латышскай мовай...

Кажуць, быццам міністар мае звольніць выдаўшага гэты загад мястовага камісара ўраду.

### Афэра вэнгерскіх фальшываманэтчыкаў.

Сьледзтва ў справе вэнгерскіх магнатаў-фальшываманэтчыкаў паглыбляецца, раскрываючы сувязь з справай найвышэй пастаўленых асоб. Апазыцыйная прэса заяўляе, ня гледзячы на запярэчаньні ўраду, што ў справу замешаны навет сам рэгент, ці „ахоўца вэнгерскага трону“—Хорты. Яго блізкія крэўнякі і сваякі быццам дапрашываліся ўжо сьледчым...

### Урадавы крызіс у Нямеччыне.

Праектаваная прэзыдэнтам „вялікая коаліцыя“ соймавых клюбаў дзеля стварэньня ўраду аканчальна правалілася. Сацыял-дэмакраты, якіх хацелі прыцягнуць да ўлады цэнтравыя групы, рашуча адмовіліся ад коаліцыі. Адмовіліся затым, што людоўцы (група Штрэзэмана і Лютэра) не згадзіліся на варункі сацыял-дэмакратаў. Варункі былі такія: вярнуць закон аб 8-гадзіннай працы, запамогі для безработных, адмова плаціць адшкадаваньні з дзяржаўнага скарбу сябрам сямей, панаваўшых у Нямеччыне (каралям і князям)—за канфіскаваныя маемасьці. І вось нямецкая буржуазія, акурат як і польская, гатова выкінуць мільёны на падаркі згубіўшым Нямеччыну адстаўным „манархам“ дый магнатам, але шкадуе грошаў на ратаваньне ад голаду сваіх работнікаў, стварыўшых усё багацьце краю...

Калі правал „вялікай коаліцыі“ высьветліўся, прэзыдэнт паклікаў да сябе ізноў Лютэра і даручыў яму зладзіць габінэт (урад) толькі з цэнтравых партыяў—хай гэты габінэт нават ня будзе мець большасьці ў Сойме... Ня будзе, бо і нацыяналісты ня ўвойдуць у склад ураду,—бо не згаджаюцца з „лёкарнскай“ замежнай палітыкай Лютэра і Штрэзэмана.

### Дынастычны крызіс і асаднае палажэньне ў Румыніі.

Тое, што робіцца ў Румыніі, паказывае, што адрачэньне ад правоў на трон румынскага прынца было ня толькі яго асабістай „самаволяй“. Прынц Кароль, як аказываецца, быў у зьвязку з апазыцыйнымі коламі, якія цяпер пачалі нешта ў родзе актыўнай барацьбы проці румынскага караля і яго ўраду. У выніку гэтых аслажненьняў прэм‘ер ураду Братыяну загадаў такую вынятковую меру, як — асаднае палажэньне ў сталіцы краю... Правадыр румынскай апазыцыі штосьць гатуе ў Парыжу, а сам прынц Кароль паехаў у Альбанію, дзе таксама падрыхтоўваюцца, як пішуць газэты,—нейкія „важныя здарэньні“...

Што нешта дрэннае мае здарыцца з найбольш прагніўшай з усіх астаўшыхся на сьвеце румынскай манархіяй, гэта—бясспрэчна.

### Справа Мосулю.

Турэцкі пасол у Лёндане падаў англійскаму ўраду мэмарыял (запіску), у якім Турцыя заяўляе, што, не прызнаючы пастановы Лігі Народаў, гатова мірна паразумецца з Англіяй і разьмежаваць узаемныя гаспадарчыя інтарэсы ў Мосулю. Турцыя толькі рашуча трэбуе, каб яе дзяржаўныя правы на спорны цяпер Мосульскі округ былі прызнаны бясспрэчна. Ніякіх грашовых „адшкадаваньняў“ ад Англіі за Мосуль Турцыя ня прыме.—Турэцкі ўрад не гандлюе дзяржаўнай тэрыторыяй турэцкага народу.

# Хроніка.

**Беларускім дзецям ёлку забаранілі!** Кіраўніцтва адзінай ужо ў Вільні беларускай урадавай пачаткавай школы № 33 пастанавіла аладзіць для сваіх вучняў у мінулую суботу ёлку. На гэта быў дадзены дазвол школьным інспэктарам. Ёлка мела надбыцца ў салі Віленскае Беларускае Гімназіі. Кіраўніцтва школы № 33 падало аб гэтым патрэбную заяву камісару ўраду на места Вільню п. Вімбору, вядомаму „прыяцелю“ беларусаў. І што-ж? Пан Вімбор дазволу на ёлку для бедных беларускіх дзетак ня даў, пазбавіўшы іх гэтак навет такое малое і нявіннае радасьці...

Прынамся цяпер і малыя беларускія дзеткі будуць ведаць, якімі „правамі“ карыстаюцца беларусы

пад уладай „найдэмакратычнейшай“ спаміж усіх дэмакратычных рэспублік!..

**Арышт сябра б. „ураду Мархлеўскага“.** Мяйсцовыя газэты паведамляюць, што паліцыя арыштавала выдатнага камуніста, былага сябра недаехаўшага да Варшавы „ураду Мархлеўскага“, прыехаўшага ў 1920 годзе ў Польшчу разам з бальшавіцкай арміяй.

Прозьвішча гэтага камуніста — Куліковскі, але зваўся ён таксама і Стэфаньскім і Ольскім.

Цікава, што арыштаваў яго зусім прыпадкова, пабачыўшы ў вагоне на станцыі Беласток, той самы былы афіцэр польскай арміі, якога прыказаў расстраляць у 1920 годзе Куліковскі, але якога неяк не дабіла куля.

Цікава і тое, што гэты былы афіцэр польскай арміі служыць цяпер „вывядоўцам паліцыі“.

**Бандыцкі напад „здэмабілізаваных“ пад Вільняй.** 9 га студзеня на маёнтак п. Ольгі Маркавай зроблены бандыцкі напад, на якім варта спыніць увагу ўладаў і грамадзянства. Ня тое, каб мы думалі, што гэткага яшчэ ня было ў нас на „Крэсах“. Бывала яшчэ горшае. Але тое ўсё спрытна хавалася—за „дывэрсантаў“, за „беларускіх партызанаў“ і г. д. А тут пад самай Вільняй—усё гэта замаскаваць „пад беларуса“ аказалася немагчымым.

Дык—да справы.

А справа адбылася так. Пяцёра бандытаў нанялі ў Вільні аўтамабіль, паехалі да маёнтку Руская Рэша каля Вільні (14 вёрст ад Вільні пад Мэйшаголай), напалі на дом памешчыцы старухі Маркавай і, пабіўшы яе, узялі 500 злотых гатоўкай і на 3.000 злотых каштоўнасьцяў.

Напад, як напад. Але цікаўней—хто-ж гэтыя бандыты?

І вось, перад усім, правадыр усей банды — сам пан прэзэс Саюзу шофэраў у м. Вільні (шофэр—фурман у аўтамабілі). І рэшта бандытаў — усё шофэры прыватных аўтамабіляў места Вільні.

Але далейшыя весткі аб іх біяграфіі — яшчэ цікаўнейшыя. Амаль ня ўсе гэтыя шофэры-бандыты — толькі што адпушчаныя з войска жаўнеры-артылерысты. Напрыклад, Пётр Лапуняк — былы вахмістр коннай артылерыі 3 дывізіёну, звольнены з войска ў красавіку 1925 г. Высьветлілася, што рэвальвэр даў яму яго калега, таксама вахмістр, але яшчэ на службе — Ян Тарговскі, які ведаў, дзеля чаго дае аружжа. Другі бандыт—Марыян Маліновскі — навет капрал таго-ж дывізіёну артылерыі, звольнены толькі 1 га студзеня сёлетняга году. Ён таскама меў зьнекуль рэвальвэр. Трэці — Клімашэвскі Казімір — з таго-ж 3 дывізіёну, толькі што звольнены ў запас. Чацьвёрты — прафэсіянальны бандыт, толькі-што выпушчаны з вастрогу, але таксама быў шофэрам і сябрам „Саюзу“, як і ўсё іншыя. Пяты—пан Прэзэс Саюзу Шофэраў Пашкевіч.

Усе — чыстакроўныя, „прыраджоныя“ валадыры нашага краю—палякі.

Цікава, што, па старой прывычцы, Обст у сваім „Dzienniku“ ў адным нумары піша, што „ўсе бандыты толькі-што прыбылі з Расеі, дзе служылі ў арміі бальшавіцкай“. Але ўжо ў наступным сцьвярджае сам, што ўсе бандыты служылі ў арміі польскай, дый толькі-што з яе звольнены,—некаторыя ўсяго некалькі дзён назад.

Найсьмешней, калі стары прафэсыянальны брахун, стаўшыся ад старасьці аўтаматам, сам сябе „папраўляе„.

**Арышт бандыта Рыся.** 12-га студзеня ў Вільні папаўся ў рукі паліцыі шырока ўслаўлены ў нас бандыт Рысь (Рысев), старавер з Сьвянцяншчыны, які 30 гадоў бяскарна займаўся рабункам.

**Безрабоцьце ў Вільні.** Па афіцыяльным даным лічба безработных у Вільні на 9-га студзеня ўзрасла да 4.450 душ. Дапамогу атрымліваюць толькі 925 душ.

**Адно-златовыя паперкі больш ня йдуць.** Ад 1-га студзеня ня маюць больш абавязковага ходу ў Польшчы паперкі ў 1 злоты. Гэтымі адно-златоўкамі можна яшчэ ў працягу цэлага году плаціць усе дзяржаўныя падаткі. Дык наагул іх павінны прымаць усе **дзяржаўныя касы.** Але абарот між прыватнымі асобамі і ўстановамі залежыць ад добрай волі кожнай з іх. Кожны можа адмовіцца прыняць іх.

Гэткім чынам 1 златовыя паперкі зусім ня трацяць сваей вартасьці, але яны абавязкова прымаюцца толькі дзяржаўнымі касамі і ўстановамі.

**Ізноў спадак злотага!** У Вільні ад серады курс злотага значна йзноў панізіўся. У чацьвер увечары за даляр плацілі 8 зл. 20 гр.

# Карэспандэнцыі.

## Што казаў сьляпы дзед.

(Голас з вёскі).

Нядаўна мне трэ‘ было ісьці за 30 вярстоў у павятовы горад, дзе я меў пільныя справы, і выпала мне заначаваць у дарозе.

Прыйшоўшы ў нейкую вёску, па звычаю, раз на заўсёды прынятаму, я зайшоў у самую найбяднейшую хату, бо, па майму паняцьцю, бедны чалавек заўсёды гасьціньнейшы; хоць ён цябе не абдорыць нічым, але-ж з чыстым сэрцам добра прывеціць.

Пры століку, на якім гарэла лямпачка і на якім ляжала некалькі газэтных лісткоў, сядзелі двое мужчын: адзін —падростак, другі — сьляпы дзед.

Падростак штосьці чытаў, а дзед уважліва слухаў; але пры маім зьяўленьні абодва, нат‘ і дзед, скіравалі свае галовы да мяне.

Аддаўшы ім добры вечар і папрасіўшы аб начлег у іх хаце, у чым мне не адмовілі, я прысеў на лаўцы непадалёку ад дзеда і тут то заўважыў, што тыя газэты, якія ляжалі на стале, былі беларускія, усіх напрамкаў: бо разам з „Беларускаю Нівай“ ляжала „Сялянская Ніва“, „Беларуская Крыніца“, „Грамадзкі Голас” і „Праваслаўны Беларус“.

Сказаўшы гаспадаром хаты, хто я такі, куды і чаго іду, я спытаўся ў дзеда: што, дзедку, беларускія газэты чытаеце?... Скажэце, што чуваць новенькага на сьвеце?...

— „Э, кажа, сынку, сьвет-сьветам, але наша Матка-Беларусь, дык многа мусіць выцярпець, дзякуючы таму, што яе дзеткі заблудзіліся ў паняцьцях і пайшлі на яе ратунак рознымі ды досьць ня трафнымі шляхамі“...

— Як-жа гэта?—пытаюся я.

— „А вось як, адказывае дзед:—Пасол Ярэміч у другім нумары „Сялянскай Нівы“ прызнаў: што нам па дарозе з латышамі і літвінамі, пакінуўшы збоку магутны Саюз Вольных Рэспублік былое Расеі і працоўныя масы Польшчы. Але, памойму, гэтая рэч пасла Ярэміча — не да рэчы, бо сама Латвія ды Літва столькі значаць у сучаснай палітычнай завірусе, колькі лебядзіны пух у ветры. Акрамя таго: як-жа мы можам пакладаць на іх надзеі, калі цяпер яны ўціскаюць там у сябе нашую меншасьць?.

„А ў першым нумары, тэй-жа газэты — дык правадыры Сялянскага Саюзу, Рагуля і той-жа Ярэміч,—навет адгарадзіліся ад гарадзкіх работнікаў... Ці-ж гэта можна?...

Ці-ж гэта ня глупства?...

„А вось яшчэ, кажа, „Беларуская Крыніца“, дык будуе сваю будучыну на касьцёльнай вуніі з Рымам, пад знакам сьв. Язапата?

Вунія Беларускіх касьцёлаў ці царквоў павінна быць: незалежна, самастойна, аснованая на разумных вывадах хрысьціянскай маралі, а дзеля гэтага трэба, каб беларускае духавенства, разам з народам, на духоўным Саборы разгледзіла гэтае пытаньне і ўстанавіла беларускую хрысьціянскую царкву—бяз ніякіх уплываў, як старога, так і новага Рымаў. Трэба, каб беларускі народ адказаўся ад сваіх сучасных багоў, каб знайшоў праўдзівага Евангельскага Бога.

„Што-ж датычыць, Часовай Беларускай Рады, афіцыозам якое ёсьць „Грамадзкі Голас“, дык гэта—проста „кумпанія“, якая хоча ўпаіць у беларускае грамадзянства надзею на магчымасьць добрага сужыцьця беларускага „быдла“ да пыхі ганаровымі „польскімі надчалавекамі“, дый наагул за казённы пірог чмуцяць наш народ, — толькі-ж послуху ў нас такая работа ня знойдзе.

„Далей, кажа дзед, хоча кіраваць намі і праваслаўны мітрапаліт Дзяніс, які атрымаў ад улады ордзен „Адраджонай Польшчы“, ідзе сам на павадку ў гэтае ўлады, ды хоча вясьці за сабою ўвесь беларускі праваслаўны народ.

„Вось так і туманяць нам усе-ўсякія галовы“!

— Ну, добра, кажу я, але скажэце, дзедку, што вы думаеце аб „Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамадзе“?

— Аб гэтай „Грамадзе“ я думаю, кажа дзед, што яна мае найздаравейшыя падставы да жыцьця і ёй, пэўна, усьміхнецца доля. Бачыш, ніхто ня згодзіцца будаваць дабрабыт каму іншаму, а не сабе, і ў Беларускім Клюбе аказаліся й такія дзеячы, што мала рупіліся аб карысьць працоўных. Дык вось, часовая камбінацыя, адзінага Пасольскага Клюбу ў Сойме, ня меўшая здаровых падставаў, мусіла разваліцца: і кожная яе часьціна пачала жыць сваім жыцьцём“...

І гэтак доўга і шмат мы гаманілі з дзедам, а нарэшце дык дзед загаварыў вершам:

Мы ідзем, пасьпяшаем, бо сіла  
Есьць у нашых здаровых нагах...  
Ўжо далёка на задзе магіла,  
Што зіяла, ды сеяла страх.  
І ўжо ранак сьмяецца, бо хутка  
Будзе сьвет, будзе дзень залаты;  
Ноч жыцьця, хоць памалу, лягутка  
Дзесь плыве і ня прыдзе сюды.  
Сюды прыдзе сіяючы промень;  
Промень сонца, пачуцьця, агнёў...  
Ўжо ўстае прабуджаючы гоман  
І нас кліча да працы—трудоў.  
І нас кліча да зорнага шчасьця,  
І праводзіць на родны наш шлях...  
Мы ня можам загінуць прапасьці—  
Сіла ёсьць ў нашых творчых руках!..

**Эсэс.**

## Гутарка сялян.

(З Вялейшчыны).

„Ці чуў ты, браток, якія прыкрыя рэчы робяцца ў працы нашых паслоў?“ — зьвярнуўся Язэп да свайго суседа Міколы.

„Можа, што і цікавае?“—запытаўся Мікола.

„Цікавага мала, але для нас, выбаршчыкаў іх, вельмі прыкрыя рэчы: паслы нашы падзяліліся на два лагеры: адзін, як табе ведама,—прадстаўнікі Сялянска-Работніцкай Грамады, другі Сялянскага Саюзу. Першыя, як і ты казаў ня раз, запраўдныя барацьбіты за рабочых і сялян, як сьлед, апякуюцца намі, ня стыдаюцца сказаць, каму трэба, праўды. Другія, як відаць з іх газэты „Сялянскай Нівы“, маюць на мэце барацьбу толькі за сялян, адлучыўшы іх ад усяго вызвольнага руху працоўных. А вось надовячы ў „Сялянскай Ніве“ дык навет пісалі такую ману, быццам на Усходзе практыкуецца асадніцтва, як і ў нас: дзеліцца нашая зямелька для „чужынцаў“, хоць гэныя „чужынцы“

# Голь.

Голь пралетарская, бедная голь.....  
Сьцюжа ў падвале і бруд......  
Голад... насьмешкі... енк... алкаголь...  
Эх, нешчасьлівы ты люд!..  
Голь пралетарская.

Змалку задуманы, сумны, худы,  
Зьвязаны з горам, бядой......  
Дзе твае, голь, бесклапотныя дні?  
Хто зрабаваў твой спакой?!..  
Голь бяспрыветная.

Зьвеку-спрадвеку—цярпеньні і боль,  
Сумныя песьні да зор...  
Голь пралетарская, бедная голь...  
Люд бяспрытульны—укор...  
Голь бяспрытульная.

1925 г. **Малады.**

разам з беларусамі ад вякоў разам жывуць і сталіся грамадзянамі Беларусі.

„Чаму-ж яны зьвяртаюць увагу толькі на сялян?“, запытаўся ізноў Мікола.

— „Кажуць, што ў нас зусім няма рабочых, адны сяляне“.

Тут Мікола страціў роўнасьць голасу; хутка і з запалам начаў:

— „Што-ж яны: звар‘яцелі? Як яны сьмеюць абходзіць моўчкі каля 25 проц. нашых братоў падзёншчыкаў? Праўда: у нас мала фабрык і заводаў і згуртаваных каля прафэсіянальнага саюзу рабочых; але-ж праступна і стыдна ім забывацца аб падзёншчыках, што жывуць сярод нас масамі ў гарадох, мястэчках, і навет у вёсках, ды часта-густа мучацца ў бараках, зямлянках і страшэнна бедных халупах, жывяцца выключна падзённымі заробкамі. Ці-ж гэтая кляса нашых братоў не належыць да рабочых, на якіх трэба зьвярнуць перш за ўсё асаблівую ўвагу? Хто-ж, як не яны, найбольш церпяць цяпер, калі эканамічны стан нашага жыцьця зусім зруйнаваны? За прыкладам далёка хадзіць ня трэба. Можна гэты жудасны абраз бачыць у нас што-дзень у Гарадку. Паўголыя, галодныя, — гэтыя бедакі йдуць па 5—7 вёст і просяцца ў Гарадоцкіх жыдоў на работу. А працы — апроч пілоўкі дроў і трапаньня лёну—няма. Колькі-ж ім плацяць за гэту работу? Сорам сказаць: за воз дроў—30 грошаў, а за трапаньне лёну нібы злот, ды і той не гатоўкай, а, калі хочаш, бяры што-небудзь у краме і плаці, зразумела, удвая даражэй, а ня хочаш—ня йдзі на работу. Ды ўжо і гэтыя заробкі канчаюцца. Што тады будуць рабіць гэтыя бедакі? Чым пракормяць сябе і дзяцей да вясны, пакуль вырастуць крапіва і шчаўё? Думаю, што ня лепш жывецца чверці нашых братоў ува ўсей нашай многапакутнай Заходняй Беларусі. Дык вось, на што трэба зьвярнуць у першую чаргу ўвагу нашым паслом, каб супольным фронтам вясьці да пабеды барацьбу з тымі, хто нас да гэтага стану давёў, а не сварыцца і не дзяліць наш працоўны народ!..

— „Праўду, братка, кажаш“, — сказаў, засмуціўшыся, Язэп.

— „Прыгледзіўшыся да агульнага нашага жыцьця ня трудна зразумець, што нам усім, як адзін, трэба злучыцца ў моцную грамаду і агульным фронтам дабыць сабе лепшае жыцьцё, а пры гэтакіх варунках, як спorкі і дзяльба нашых выбранцаў—паслоў, мы доўга будзем гнуцца пад ярмом нашых злачынцаў. Барацьба паслоў між сабой вызывае лішнія выдаткі і марнаваньне дарагога часу, як напрыклад: выдаваньне газэты „Сялянская Ніва“, якая не дае нам ніякай карысьці“.

— „А што, скажы, адказаць прадстаўнікам Саюзу на запытаньне, ці падабалася нам іх газэта і ці выпішам мы яе?

— „Адказ, памойму, вельмі просты: прадстаўнікоў Рабоча-Сялянскай Грамады ведаем, як сыноў вёскі, шчырых барацьбітаў за лепшую будучыну нашай Бацькаўшчыны; газэта „Беларуская Ніва“ нас аканчальна задаваляе; выпісываць „Сялянскай Нівы“ ня хочам і ня буезем“.

— „Праўду кажаш, браток Мікола—сказаў Язэп. „Трэба будзе, калі ўдасца, гэтак адказаць прадстаўнікам Саюзу—на гэтым і спынілася гутарка суседаў — сялян“.

**Падслухаўшы сусед.**

# З Радавае Беларусі.

## Новыя выданьні дзяржаўнага выдавецтва Беларусі:

**М. Пакроўскі.**—Нарысы з гісторыі рэволюцыйнага руху ў Расеі.

**М. Некрашэвіч.**—Жыцьцё і праца, рабочая кніга па бел. літэратуры для прафтэхнікумаў і іншых школ.

**Гарэцкі, Дзяржынскі, Каравай.** — Выпісы з бел. літэратуры, ч. І-я.

**Федасенка і Сьцяпанаў.**—Мэтадычныя ўвагі да лемантара Чырв. Зьмена.

**Самковіч, Пратасевіч, Гарбацэвіч.** — Наш сьцяг, чытанка для 4-году навучаньня.

**Я. Лёсік.** — Беларускі правапіс; выданьне 3-е папраўленае.

**Я. Лёсік.**—Пачатковая граматыка, выд. III.

**Кузьняцоў.**—Ленін і сялянства.

**М. Бухарын.**—Шлях да сацыялізму і рабоча-сялянскі саюз.

**І. Сталін.**—Пытаньні і адказы.

**Аграном Марозаў.**—Пажніўныя расьліны, два ўраджаі з поля.

**Уліцін.**—Суд над трохпалёўкай, аграп‘еса.

**Капітонаў.**—Што павінны рабіць камуністы на вёсцы.

**Муйжэль.**—Жаніх з Піцеру.

**Галубок.**—Суд. Камэдыя ў I акце.

**Івушка.**—Калінушка.—Непаслухмяныя.

**Полымя № 7.**—Беларуская часопісь літэратуры, палітыкі, эканомікі, гісторыі.

### Да перадачы сялянству лясоў мясцовага значэньня.

За мінулы час перададзена лясоў мясцовага значэньня 331.000 дзес. У гэты лік уваходзіць: б. сялянскіх лясоў—260.000 дзес. (79 проц.), памешчыцкіх — 67.000 дзес. (20 проц.), і дзяржаўных—4.000 дз. Падлягае яшчэ перадачы 66.000 дзесяцін.

Такім чынам, усяго лясоў мясцовага значэньня перадаецца каля 400.000 дзесяцін.

Названыя лясы ў працягу 3 х гадоў будуць упарадкаваны. На гэту патрэбу на 1925—1926 г. улада ўжо асыгнавала 44.000 руб.

### Мэліарацыя.

Водлуг вестак Наркамзему, агульная площча сенажатнага фонду, які патрабуе мэліарацыі, складае ў сучасны момант 34,880 дзес.

Гэту площчу намечана мэліараваць у працягу бліжэйшых 5 год у гэткім парадку: 1925-26 г. —620 дзес., 1926-27 г.—5871 дзес., 1927-28 г. — 7250 дзес., 1928-29 г. — 8589 дзес., 1929-30 г. — 12450 дзес.

Пасьля выпаўненьня мэліарацыйных прац на сенажатным фондзе, ён паступова будзе перадавацца ў працоўнае карыстаньне жыхарству.

Эксплёатацыя сенажатнага фонду праводзіцца праз здачу яго з таргоў у арэнду на тэрмін ад 1 да 9 гадоў.

### Ахова здароўя.

Згодна з плянам Нар. Кам. Аховы Здароўя на 1925-26 г., у межах БСРР намечана адчыніць 20 раёнfamous дзіцячых кансультацый і 100 ясьляў.

У мінулым годзе налічвалася ўсяго 4 кансультацыі і 45 ясьляў.

Сродкі на заснаваньне ясьляў адпускаюцца з фонду палепшаньня быту рабочых.

### Лячэбны фонд ня мясцох,

Лячэбны фонд на мясцох у мінулым годзе складаў 1.001.083 руб.

Па асобных акругах ён размяркоўваецца гэткім чынам: Бабруйскі вокруг—100.664 руб., Барысаўскі — 68.522 р., Калінінскі—28.512 р., Віцебскі—217.699 р., Менскі—309.528 р., Магілёўскі—70.777 р., Мазырскі — 61.005 р., Аршанскі—80.016 р., Полацкі — 37.476 р., Слуцкі—26.884 руб.

## Беларусы у Літве.

### Ізноў Ластоўскі?

Абшарніцкае „Słowo", якое заўсёды мае весткі з суседніх з Польшчай дзяржаў — з дэфэнзыўных крыніц, падало надовячы вестку з Коўны, што тамака ізноў выступіў на палітычную арэну грам. Ластоўскі, які ў часе „прэм'ерства" Цьвікевіча ня йграў ніякае ролі ў беларускай палітычнай рабоце.

Справа быццам у тым, што ліквідацыя „ўраду Б. Н. Р." і выезд сяброў яго ў Менск пазбавіла Літву ўсялякае сувязі з беларусамі. Вось, літоўскі ўрад і надумаўся ўзнавіць „беларуска-літаўскую дружбу" (даўно ўжо ім-жа пахаваную!) і ўжыць дзеля гэтага Ластоўскага.

У Коўне створана адумыснае „Літоўска-Беларускае Т-ва", старшынёй якога—Ластоўскі, віцэстаршынёй—літвін Янулайтіс (с.-д.), сэкрэтаром—беларус Душэўскі. Ад Сойму ўвайшлі два прадстаўнікі: Сьляжэвіч і Стэпановіч.

Паводле афіцыяльнага камунікату з першага паседжаньня Т-ва, яно мае на мэце напружаньне ўсіх сіл у кірунку зьбліжэньня двух братніх народаў—літоўскага і беларускага і дапамаганьне Беларусі здабыць поўную незалежнасьць у змаганьні яе з Польшчай. Таварыства месьціцца ў Коўне пры вул. Міцкевіча № 13.

Пекная і хвалебная думка—зьбліжэньне братніх народаў, якіх ад вякоў так цесна зьвязала гісторыя. На жаль, калі літвіны мелі ў сваіх руках Вільню і добрую часьць Віленшчыны, дык яны ня толькі нічым не дапамаглі беларусам навет у іх культурнай працы (—куды ўжо там да незалежнасьці!), але, наадварот, не дапусьцілі да адчыненьня ніводнае беларускае школы, а дапамагалі якраз паляком закладаць польскія школы ў чыста беларускіх вёсках.... Затое-ж цяпер, калі Вільня выскачыла з іх рук, нашы „браты" суляць нам аж... поўную незалежнасьць!

Думаем, што вынікі дзеяльнасьці Літоўска-Беларускага Т-ва ў Коўне будуць ня большыя за вынікі памершага перад нарадзінамі Польска-Беларускага Т-ва ў Вільні. Што-ж, трудна: палітыку робяць не адзінкі, а масы, і гэтыя масы ў Беларусі ніколі не пацьвердзяць прадажы Ластоўскім Літве, Віленшчыны і Горадзеншчыны!

## Беларусы у Чэхаславакіі.

### Сьвяткаваньне Скарынінскага Юбілею.

31-га сьнежня 1925 году беларусы ў Празе сьвяткавалі 400-ыя ўгодкі беларускага друку ў Вільні.

У сувязі з гэтым Беларускае Культурнае Т-ва ім. Францішка Скарыны ў Празе прыслала Беларускаму Навуковаму Т-ву ў Вільні гэткае прывітаньне:

*Беларускаму Навуковаму Таварыству ў Вільні.*

Беларускае Навуковае Таварыства Імяні Францішка Скарыны ў Празе, сьвяткуючы 400 ыя ўгодкі закладзінаў беларускага друку на Бацькаўшчыне, шле Беларускаму Навуковаму Таварыству ў Вільні свае шчырае прывітаньне з пажаданьнем прадукцыйнасьці і вытрываласьці ў працы на карысьць дабра паспалітага.

Старшыня Скарынінскага Т-ва
**Мікола Ільяшэвіч.**

Прага, 31-га сьнежня 1925 г.
Чэхаславаччына.

## Беларусы у Італіі.

### На ўгодках Нікейскага Сабору.

У Італіі адзінымі прадстаўнікамі беларусаў зьяўляюцца дагэтуль, на-жаль, толькі ксяндзы-беларусы. Такое прадстаўніцтва, ведама, ня можа ня быць аднабокім. Вось і цяпер беларусы напомнілі аб сабе на італьянскай зямлі тыя, што на сьвяткаваньні 1600-ых угодкаў Нікейскага Сабору ў салі „Collegium Germanicum" у Рыме — побач з прадстаўнікамі ўсіх каталіцкіх народнасьцяў—выступілі ад імя беларусаў-каталікоў два студэнты-беларусы: кс. Чарняўскі і кс. Крук.

## Усячына.

### Трубы заместа паляў.

Убіваньне паляў у зямлю—справа надта марудная і каштоўная, асабліва, калі іх трэба ўбіваць на вялікую глыбіню. У Амэрыцы знашлі новы спосаб будаваць апору для будынкаў. Заместа паляў убіваюць сталёвыя трубы, адпаведнай даўжыні і таўшчыны. Унізу сьценкі трубы загостраны і закалены і яны могуць рэзаць зямлю, як лепшыя нажы. Гэткая труба лёгка ўваходзіць у зямлю на жаданую глыбіню і рэжа самы цьвёрды грунт. Калі труба ўбіта да канца, то зямлю з яе выдуваюць сьціснутым паветрам, і зямля вылятае фонтанам. Пасьля гэтага трубу прамываюць струмінай вады і заліваюць унутры цэмэнтам. Выходзіць убіты ў зямлю жалеза-бэтонны слуп. На такіх слупох можна ставіць любой велічыні будынак.

## Паштовая скрынка.

**Яну Дэшкоўскаму:** Насьценны календар высланы ўсім падпішчыкам, як прэмія, Вашы 75 гр. залічаем на газэту.

**Падпішчыку № 1282:** Маеце рацыю, ад Вас належыцца па 1./I. 1926 г. 14 злотых. Два месяцы перарыву адлічаны ўсім падпішчыкам.

**Аўгену Сініцы:** Газэту высылаем. Згаджаемся чакаць да восені.

**Падпішчыку № 1484:** Песьні і прыказкі можаце прыслаць на адрэс нашай рэдакцыі. Перадамо ў выдавецкае Т-ва. З часам выкарыстаюцца. Каталёг Беларуская Кнігарня Вам вышле.

**Наваграну:** Маеце аплочана па 1./II. 1926 г.

**Падпішчыку № 2379:** Падайце другі №, па якому ідзе Вам лішняя газэта.

**Падпішчыку № 1529:** „Авадзень" ня выходзіць, і ці будзе ня ведаем. „Студ. Думку" выслалі. Календара няма пакуль-што.

**Атрымана:**

Ад:—Язэпа Клемантовіча, I. Піваварчыка, А. Даўгарукава, Міхала Тымашэвіча, Яна Крэміса, Цімафея Лукашэвіча, Канстантага Якута, Е. Юрчыка, Мікалая Крывапуста, Тамаша Кандрацюка, Антона Турыка, Тамаша Чычканя, Уладзіміра Атаповіча, Барыса Блашчаніцы, Уладзіміра Крэня, Уладзіміра Герэса, М. Тарасюка, Аляксандра Дараховіча, Канстантага Сецявінца, Язэпа Наумовіча, Рыгора Южыка, Яна Дразда, Яна Парфяновіча, Наваграна, Сьцяпана Казла, Данілы Кармільчыка, Якуба Зайкі—**па 2 злотых.**

Ад: — Яна Мукасея, Сьцяпана Пагуды, Паўла Шлыка, Вінцэнтага Бурца, Філарэта Клаўсуця, Сьцяпана Буткевіча, Пятра Крываблоцкага, Аляксандра Люткевіча—**па 3 злотых.**

Ад:—кс. Ігната Раманюка, Аляксандра Антановіча, Фядота Кавеліча, Мікалая Ёды, Якіма Носа, Базыля Мацыновіча, Пятра Дравіцы—**па 4 злотых.**

Ад:—Язэпа Каспара, Аляксея Якімовіча, Юрыя Трумпеля, К. Іванюка, Юрыя Маркевіча, Гальяша Ляўковіча—**па 5 злотых.**

Ад:—Антона Кавальчука, Вінцэнтага Бурца, Любіча-Маеўскага, Сініцкага, Аляксандра Радкевіча, Канстантага Касьцюшкі, Мадэста Норыка, Маркі Рудзяка, Сымона Жыткевіча, В. Кузьміча, Аляксандра Ільюшкі, Тодара Махнача, Марка Ходзькі—**па 6 злотых.**

Ад: — А. Стасевіча, Алімпіі Алейнічакоўскай, П. Сяркевіча—**па 7 злотых.**

Ад: — Палескага Ваяводзтва, Адама Станкевіча, Юльяна Наруша, Рыгора Савоша, Сымона Раўнэйкі — **па 8 злотых.**

Ад:—Міхала Скока, Дарафея Марчука і Юльяна Дорошчэнкі—**па 10 злотых.**

Ад: — Чытачоў в. Навасёлкі, Вяліка-Есьмонтаўскай гміны, Горадзенскага павету—**4 зл. 70 гр.**

Ад: — Якуба Ганэцкага—4 зл. 20 гр., Аляксея Ярмаловіча—2 зл. 50 гр., Мікалая Краўчыка — 9 зл., кс. Паўла Анопа—12 зл., Лаўрэна Парфяновіча — 15 зл., М. Явіта—2 зл. 50 гр., Яна Дэшкоўскага—75 гр., Мікалая Лукьяновіча—20 злотых.



Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.